# Тыднёвік Магілёўскі




№ 24 (88) 23 - 29 чэрвеня 2000 г. Кошт 50 руб.


# Палітыка. Выбары. Кангрэс.





*Напрыканцы наступнага тыдня ў Менску склікаецца чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў. Асноўная мэта дыскусіяў – выпрацоўка ўзгодненай пазыцыі апазыцыйных палітычных партыяў і грамадзкіх рухаў у дачыненьні да маючых адбыцца ўвосень парлямэнцкіх выбараў. Няпростае пытаньне, няпростая праблема, няпростая дыскусія. "ТМ" пацікавіўся напярэдадні Кангрэсу стаўленьнем да гэтых праблемаў з боку кіраўнікоў і актывістаў некаторых, найбольш уплывовых, мясцовых арганізацыяў. Вось якая атрымалася карціна.*

***Алесь Буракоў, старшыня магілёўскага моладзевага Хрысьціянска-сацыяльнага саюзу:***

*– Сам я на кангрэс ня еду і не зьбіраюся, бо нічога ад яго не чакаю. Гэта будзе, на маё меркаваньне, досыць дэкляратыўная акцыя, дзе зьбяруцца прадстаўнікі апазыцыі і яшчэ раз прадэманструюць самім сабе свае мэты. На кангрэсе ня ўдасца выпрацаваць што-небудзь новае і прывабнае для электарату. Адзінае, што можа быць станоўчым, гэта тое, што можна будзе заявіць, што ёсьць яшчэ, жывая яшчэ дэмакратычная апазыцыя, ці дакладней, што ёсьць у краіне людзі, якія разумеюць, што тут адбываецца і наколькі гэта небясьпечна. На жаль, для справы гэтага недастаткова.*

***Сяргей Абадоўскі, дырэктар Магілёўскага праваабарончага цэнтру:***

*– Я чакаю ад кангрэсу выпрацоўкі адзінай лініі дэмакратычных сілаў у дачыненьні да выбараў. Нічога іншага і не плянуецца вырашаць. А сумесныя паводзіны тых, хто адчувае адказнасьць за разьвіцьцё падзеяў у нашай краіне, вельмі важныя. Для ўласнага грамадзтва, а таксама для замежжа, для Расеі. Недапушчальна, каб яны ўвесь час арыентаваліся толькі на тое, што гаворыць і тлумачыць нам і сьвету Лукашэнка.*

***Міхась Шпакаў, старшыня Клімавіцкай філіі Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ:***

*– Асабіста я нічога ад кангрэсу не чакаю. Па-першае, таму, што вынікі яго ня будуць вядомыя шырокаму колу выбаршчыкаў. Як ня сталіся вядомымі грамадзтву вынікі папярэдніх падобных форумаў. Па-другое, калі заранёў вядома, што будзе – гэта ня надта цікава і, галоўнае, ня надта эфэктыўна.*

***Мікалай Юркоў, старшыня калгаса "Дрыбінскі", сябра грамадзкага руху БНФ:***

*– Я лічу, што кангрэс мусіць зрабіць свой унёсак у нашую агульную справу – абароны Беларускай незалежнасьці. Калі гэта будзе зроблена, з астатнім разьбярэмся.*

***Анатоль Фёдараў, старшыня абласной арганізацыі БНФ (В.Вячоркі):***

*– Чакаю адзінства дэмакратычных сілаў у дачыненьні да плянуемага ўладай выбарчага фарсу. Зроблена ўсё, каб замест рэальных дэмакратычных выбараў адбыўся падман грамадзтва і міжнароднай супольнасьці. Таму я лічу, што рашэньні кангрэса ў дачыненьні да выбараў будуць адмоўнымі. Мяркую, што на сходзе дэмакратычных сілаў будзе падтрыманая ідэя Ўсебеларускага Зьезду й прынятыя захады, каб дапамагчы ў ягоным скліканьні і працы.*

***Валеры Сівуха, старшыня магілёўскай філіі Аб'яднанай грамадзянскай партыі:***

*– Галоўнае, што зробіць кангрэс – выкажа супольнае стаўленьне дэмакратычных сілаў да восеньскіх выбараў. Па папярэдніх зьвестках ды ўласных развагах мяркую, што апазыцыя прыме дамову аб няўдзеле ў выбарах, калі ўлада ня пойдзе на вядомыя 4 патрабаваньні – ня толькі, дарэчы, палітычных партыяў, але й міжнародных дэмакратычных структураў. У цяперашніх умовах цкаваньня апазыцыі, забароны партыйных зьездаў, палітычных арыштаў, штрафаў і прысудаў ніякі ўдзел у выбарах "на роўных" немагчымы.*

***Аляксандар Каралькоў, старшыня абласной арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага:***

*– Самае галоўнае, каб дэмакраты дакладна вызначылі, як апазыцыя паставіцца да выбараў, якія наладжвае ўлада. Мяркую, што на сёньня гэта галоўнае. Спадзяюся, што рашэньне будзе матываваным, зразумелым, будзе даведзенае да грамадзтва. Тады кожнаму сьвядомаму чалавеку таксама будзе ясна, як сябе паводзіць.*

**ПРАДВЕСЬЦЕ?**

# Мужык беларускі да часу трывае

*У Дрыбінскім раёне адбылася беспрэцэдэнтная падзея. Упершыню ў сучаснай гісторы беларускага калгаснага ладу старшыня гаспадаркі разам зь сялянамі наладзілі страйк.*

Гэта адбылося ў калгасе "Дрыбінскі". У інтэрвію "ТМ" па тэлефоне старшыня гаспадаркі Мікалай Юркоў такім чынам пракамэнтаваў неверагоднае паведамленьне:

– У нас, у мяне, у людзей няма іншага выйсьця. Я не магу атрымаць грошы за малако, якое калгас прадаў дзяржаве. А значыць, не магу аддаць вяскоўцам іхныя заробкі. А гэта, між іншым, 20 мільёнаў рублёў. Людзі ня могуць па-чалавечы жыць, ня хочуць – і правільна робяць – працаваць бясплатна. Што, скажыце, рабіць нам у гэтай сытуацыі? Дзяржава забараніла гаспадаркам самастойна рэалізоўваць сваю прадукцыю. Яна загадвае прадаваць усё толькі дзяржаўным нарыхтоўшчыкам. А значыць, улады павінны і адказваць за тое, што не выконваюць сваіх абавязкаў. Наш папераджальны страйк – гэта пратэст супраць цяперашняга становішча, калі мы, нават ведаючы, што і як рабіць, нічога зрабіць ня можам, бо нам вяжуць рукі шматлікімі загадамі ды інструкцыямі.

Страйк, зразумела, быў у вялікай ступені умоўным. Ён "мірна" доўжыўся толькі адну гадзіну. Праўда, ушчэнт раззлаваныя даяркі вылілі ўжо набраны бідон малака на зямлю. Пры гэтым яны патлумачылі, што й без таго працуюць не на карысьць сабе і людзям, а сапраўды як "у зямлю". Бо які сэнс працаваць, ня маючы з гэтага нават на кавалак хлеба?

Падчас страйку прайшоў таксама кароткі сход. Людзі, што ня маюць досьведу ў прамовах, бо ўмеюць толькі працаваць, выказваліся аб набалелым рэзка і напружана. Больш лагодна, аднак таксама "па справе" гаварылі на страйкавым сходзе старшыня гаспадаркі і старшыня прафкаму. Ніхто не закранаў палітычных праблемаў, а тым больш не выстаўляў палітычных патрабаваньняў. Пакуль людзі вераць, што адбываецца хаця й зацягнутая, але недарэчнасьць, якую кіраўніцтва краіны здольнае выправіць. Паказальна аднак, што з раёну на сход да страйкоўцаў ніхто не прыехаў, хаця пра падзею было абвешчана. Вось і мяркуй тут: ці сапраўды, не губляючы часу, кіраўніцтва ўзялося за вырашэньне праблемы, ці проста спалохалася людзей, бо само ня ведае, як выходзіць з становішча, у якое патрапіла сёньня "савецкая беларуская вёска" пад мудрым кіраўніцтвам Лукашэнкі.

Ня толькі ў Дрыбінскім раёне, зразумела...

***Сымон ГЛАЗШТЭЙН***

## НАПРЫКАНЦЫ ТЫДНЯ

***Заўтра*** ў абласным цэнтры пройдзе паседжаньне Каардынацыйнае рады "Рэгіянальнай Беларусі" – структуры, якая паўстала сёлета з шэрагу апазыцыйных пэрыфэрыйных грамадзкіх і палітычных арганізацыяў як альтэрнатыва "сталічнаму цэнтрызму". (Папярэдне Рада, як пра гэта паведамляў "ТМ" у пазамінулым нумары, зьбіралася ў Горадні, дзе жыве і працуе адзін з ініцыятараў гэтае ідэі Сямён Домаш). Гэтым разам вырашана сабрацца ў Магілёве, што ўскосна сьведчыць пра сталасьць нашага гарадзкога грамадзка-палітычнага жыцьця, якое здольнае дамагацца вынікаў без азіраньня ўвесь час на Менск.

Мяркуецца, што ўдзельнікі новай дэмакратычнай структуры абмяркуюць шэраг надзённых пытаньняў ня толькі бягучага зьместу, але й пэрспэктыўных. Ёсьць намер дамовіцца аб інфармацыйным забесьпячэньні рэгіянальных структураў і нават аб утварэньні свайго друкаванага бюлетэню ці газэты.

***У нядзелю*** дэмакратычнае асяродзьдзе Магілёва выбярэ сваіх дэлегатаў на Кангрэс дэмакратычных сілаў, які зьбіраецца ў Менску 2 ліпеня. Абласны цэнтар будзе прадстаўлены на гэтым важкім форуме шырокім спэктрам ня толькі палітычных, але й грамадзкіх рухаў, ініцыятываў і арганізацыяў. Нядзельная канфэрэнцыя не плянуе даваць дэлегатам "цэнтралізаваныя ўказаньні", аднак магілёўцы хутчэй за ўсё падтрымаюць настрой няўдзелу з боку дэмакратычных сілаў краіны ў восеньскіх выбарах па лукашэнкаўскім сцэнары. Менавіта для таго, каб заявіць свае ўзгодненыя адносіны да парлямэнцкіх выбараў і Ўсебеларускага Зьезду, зьбіраецца, як вядома, чарговы Кангрэс дэмакратычных сілаў.



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Каля 100 аўтамабіляў "Ока" былі перададзеныя днямі па распараджэньні старшыні аблвыканкаму Міхаіла Дражына вэтэранам вайны. У сувязі з чарговай датай нападу Нямеччыны на СССР прыгожы жэст мусіць пацьвердзіць нязьменнасьць ідэалягічнай ацэнкі беларускага кіраўніцтва прычынаў і вынікаў Вялікай Айчыннай для цяпер ужо сувярэннай краіны. Вэтэраны, з тых, каму пашчасьціла, задаволеныя. У гэтую хвіліну наўрад ці хто зь іх, а тым больш з начальства, памятае пра калегаў, якія ўсё яшчэ чакаюць прыстойных умоваў жыцьця, лекаваньня, тэлефанізацыі сваіх кватэраў і да т.п. Выбарачныя адносіны да "лепшых" і да "радавых" ёсьць таксама ідэалягічнай спадчынай савецка-камуністычных часоў. Па мне, дык аддалі б яшчэ жывым вэтэранам усё, што ім даўно належыць, не пазіраючы на даты і юбілеі...

Міжгарнізонны вайсковы суд асудзіў да розных тэрмінаў зьняволеньня камандзіраў (цяпер, зразумела, былых) Бабруйскага міліцэйскага батальёна падпалкоўнікаў С.Швайбу і Л.Шкута. Яны прысвойвалі сабе частку вайсковай маёмасьці, што ішла да батальёну. Можа, і ад беднага жыцьця, а хутчэй – ад упэўненасьці, што начальству ўсё можна. Менавіта такой маральлю кіруюцца сёньня многія "дзяржаўныя людзі", незалежна ад таго, чым кіруюць: краінай, раёнам, заводам, гаспадаркай ці міліцыяй.

Падатковая інспэкцыя Магілёва адзначыла сваё 10-годзьдзе. Сьціпла пагулялі, адпачылі на канцэрце ўласнай мастацкай самадзейнасьці. Як гаворыцца, яны яшчэ і пяюць... Не даводзілася чуць ніводнага добрага слова пра падаткавікоў. Не таму, што не падабаецца людзям плаціць падаткі, а таму, што вельмі часта іх спаганяюць па незразумелых правілах, на падставе дакумэнтаў, прынятых "заднім" чыслом, што падаткавікі лічаць за гонар "спаймаць", а не давесьці свае правілы і парадкі да сьвядомасьці і разуменьня людзей. А каму можа спадабацца, што яго загадзя лічаць злачынцам альбо падазраюць у несумленнасьці...

Чым горш жывем, тым больш сьвятаў. Адно з тых, што з году ў год праводзіцца ўсё больш пампэзна і раскошна – Дзень гораду. Ён як той "лятучы галяндзец" блукае па календары, тым самым адлюстроўваючы непавагу да сапраўднай гісторыі горада і адсутнасьць у сьвята заканамэрнай і лягічнай прычыны. А яшчэ гэты дзень дэманструе шырокае ўменьне ўлады кідаць велізарныя сродкі на вецер. Зьдзіўленьне ў нармальнага чалавека, на мой погляд, павіны выклікаць некаторыя заплянаваныя гульні, напрыклад, конкурс пад назвай "Хто хутчэй дабяжыць да шашлыка". Ды адкуль узяцца прыстойнай фантазіі, калі задача арганізатараў ня ў тым, каб узьняць у людзей нацыянальны гонар за родны кут, а ў тым, каб адцягнуць увагу ад клопатаў, праблемаў і цяжкасьцяў. Ад сваёй віны за гэта – таксама.

Газэта "Магілёўская праўда" падала днямі жудасную гісторыю: некалькі мэдычных работнікаў прызналіся журналістам у тым, што аднаразовыя шпрыцы яны вымушаныя карыстаць шматразова (!). Відаць, у гэта журналістам "МП" было цяжка паверыць, бо яны зьвярнуліся па камэнтар не да хворых, што лекуюцца ў нашых клініках і больніцах (пры ўмове, што маюць усё, што для гэтага трэба, пры сабе), а да начальніка абласной управы аховы здароўя сп. Мартыноўскага, які, зразумела, абверг "усе гэтыя чуткі і плёткі".

Міхаіл Дражын правёў нараду з кіраўнікамі інфармацыйных групаў аблвыканкаму. Гэтым байцам ідэалягічнага фронту, як калісьці казалі, даручана тлумачыць народу правільнае разуменьне жыцьця ўвогуле і сваёй палітыкі ў прыватнасьці. Пра тое й ішла гаворка ў высокім кабінэце. За вокнамі яго жыцьцё не такое, як бачыцца з Дому саветаў. Вось і патрабуюцца майстры прапаганды. Цяпер іх будзе ў дзяржаўным маштабе ачольваць сумна вядомы палкоўнік Замяталін, што стаўся днямі першым намесьнікам кіраўніка Адміністрацыі менавіта "па пытаньнях ідэалёгіі". Чым цяжэй жыцьцё, тым больш цынічнымі павінны быць яго тлумачы.

Бабруйск дамовіўся сябраваць з украінскім Днэпрадзяржынскам. Добрая рэч, але на жаль, толькі на будучыню. Пакуль дрэнная эканоміка, пакуль няма нармальных дзяржаўных інстытутаў, ня будзе і нармальнага міждзяржаўнага супрацоўніцтва. А значыць, дамова аб сяброўстве не прынясе нічога, акрамя сустрэч фальклёрных калектываў ды грошай на паездкі чыноўнікаў у суседнюю краіну для складаньня бясконцых "пратаколаў аб намерах".

Верагодна, эпідэмія вострых кішэчных захворваньняў пайшла на спад. Але гэта не здымае пытаньняў, якія прывялі да крызыснай сытуацыі, у выніку якой нават спынялася вытворчасьць некаторых відаў малочнай прадукцыі, а да паўсотні супрацоўнікаў адпаведнага камбінату адхіляліся ад працы (у іх знайшлі ў арганізьме запаленчыя працэсы). Пытаньні сур'ёзныя, бо гаворка пра здароўе, а тое й жыцьцё людзей. Прычыны, пра якія мы ўжо казалі ў мінулым нумары, відавочныя – састарэлая тэхналёгія, няздольная забясьпечыць стандарты якасьці і бясьпекі, неахайнасьць і безадказнасьць у выкананьні сваіх службовых абавязкаў як з боку працаўнікоў, так і начальства. Узгадаем Горацкі камбінат, па віне якога крыху раней перахварэла ў горадзе больш за 200 чалавек. Некага, гавораць, там пакаралі. А высновы ў гэтай галіне вытворчасьці, як бачым, не былі зробленыя.

Магілёўскі аўтазавод адзначыў выпуск 1000-га самазвала. Раней завод быў часткай агульна-савецкай эканомікі, гэта значыць, што ўсе ягоныя вырабы разьмяркоўваліся па спажыўцах. Цяпер пра гэта трэба клапаціцца самім, аднак як гэта зрабіць, калі самазвалы патрэбныя перш за ўсё там, дзе ёсьць горы і пустыні. Перайсьці на выраб іншай прадукцыі заводу не дазволілі, паставіўшы перад ім (памятаеце прэзыдэнцкую выбарчую кампанію?) толькі адну задачу: запусьціць прадпрыемства! Вось і працуе яно само на сябе – дырэктары мяняюцца, а прадукцыя мёртвым грузам стаіць на тэрыторыі. Ёй цікавяцца толькі такія далёкія спажыўцы, што цана машыны дасягае неверагодных вышыняў, а значыць становіцца тормазам на шляху нармальнага рынку. А завод працягвае выпускаць...

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

## Клімаўцы пішуць... Дражыну

Больш за 200 жыхароў Клімавічаў падпісалі на пачатку чэрвеня зварот да старшыні аблвыканкаму М.Дражына з просьбай "вырашыць пытаньне аб зьніжэньні цэнаў на хлебабулкавыя вырабы" у Клімавіцкім раёне.

Пытаньне, што заўсёды ставілі наведвальнікі гораду перад мясцовымі жыхарамі – чаму ў вас такі дарагі хлеб? – нарэшце "дастала" даволі цяжкіх на ўздым клімаўцаў. Яны й задумаліся: сапраўды, чаму амаль усё ў нашых крамах даражэй, чым у суседніх раёнах? Мы што, багацейшыя, ці вінаватыя ў чымсьці? Ці мо хто лічыць, што кожны клімавец мае кран з трубы лікёра-гарэлачнага заводу й адпаведна – шалёныя грошы?

...Пасля Чарнобыльскай катастрофы горад лічыўся мінімальна забруджаным. І жыхары мелі такія ж мінімальныя, але ўсё ж даплаты да заробкаў і пэнсіяў. Цяпер, ужо чацьверты год, як Клімавічы абвешчаныя чыстай зонай. Натуральна, даплаты былі зьнятыя, а цэны да таго ж няўхільна палезьлі ўгору. І шпарчэй, чым у суседніх райцэнтрах.



Фота IREX

"У Магілёве хлеб таньнейшы на 40%, у Менску – на 50%, у суседнім Крычаве – на 35%", – паведамляюць абласному начальству абураныя жыхары Клімавічаў. Ды дадаюць, што якасьць тых самых вырабаў "не адпавядае ГОСТу", а "зварот у вуснай форме да мясцовых уладаў застаўся неразгледжаным".

Той, у каго ёсьць магчымасьць, набывае хлеб у Крычаве, Магілёве, Горках, Мсьціславе. Дарэчы, у апошні муку завозяць, быццам бы, з Клімавіцкага камбінату хлебапрадуктаў. І тым большае неразуменьне выклікала тлумачэньне эканаміста хлебазавода па мясцоваму радыё: маўляў, большы кошт хлеба выкліканы вялікімі энэргавыдаткамі на заводзе. Ці ў Мсьціславе супэрхлебзавод, ці дастаўка мукі за 70 кілямэтраў робіць гэтыя выдаткі ніжэйшымі? – ня ўцямяць наіўныя клімаўцы.

Калі зварот падпісваўся, адзін мужчына выказаў сумнеў: нічога гэта не дапаможа – прачытаюць, парвуць, выкінуць ды пасьмяюцца. Але падпісаў. Большасьць з 212 падпісантаў спадзяюцца на справядлівасьць. А хуткасьць, зь якой подпісы былі сабраныя, сьведчыць аб тым, што трываньню людзей, прычым розных сацыяльных катэгорыяў – ад пэнсіянэраў да службоўцаў – надыходзіць канец. Праўда, няясна, што за ім прыйдзе...

***М.ШПАКАЎ***

## Пад акампанімэнт дзіўных тостаў

*...Хоць культавыя ўстановы цяпер адчыняюцца часта, для Асіповічаў гэта не характэрна. У нас ёсьць нямала каталікоў, якім яшчэ доўгі час прыйдзецца будаваць свой касьцёл за ўласныя сродкі. Аднак усё ж большасьць насельніцтва складаюць праваслаўныя вернікі ды "праваслаўныя атэісты" – у асноўным былыя вайскоўцы ды перасяленцы з Расеі. Не рызыкну сьцьвярджаць, што яны маюць вялікую патрэбу ў Богу. Але ж адной старэнькай драўлянай царквы для нашага гораду відавочна было малавата.*



І вось у суботу, 3 чэрвеня, у духоўным жыцьці Асіповічаў адбылася даволі значная падзея – быў урачыста адчынены новы будынак праваслаўнай царквы. Дзіўным было тое, што загадзя пра падзею нідзе ў горадзе ня згадвалася. Такое замоўчваньне было б, натуральна, цалкам зразумелым, калі б, у адпаведнасьці з заканадаўствам, гэта было ўнутранай царкоўнай справаю. Аднак жа ў сьвяткаваньні зусім невыпадкова быў задзейнічаны ўвесь асіповіцкі "бамонд". Больш таго: на просьбу айца Васілія Белавуса райвыканкам распрацаваў асобны плян правядзеньня ўрачыстасьці. Былі запрошаныя кіраўнікі ўсіх арганізацыяў гораду, што мелі непасрэднае дачыненьне да пабудовы царквы. Шмат было "простых" людзей. Прыехаў на ўрачыстасьць кіраўнік абласной япархіі айцец Максім.

Я не вялікі знаўца архітэктуры, тым больш царкоўнай. Знадворку, прызнаюся шчыра, збудаваньне мяне не зацікавіла. Можа, яшчэ й таму, што перашкаджаў любавацца красою будынка натоўп розных начальнікаў, які перамінаўся з нагі на нагу, нецярпліва цякаючы на другую, больш прыемную частку сьвята. Затое ўнутры спадабалася. Вельмі прыгожа й кранальна выводзілі свае царкоўныя сьпевы адмысловцы гэтае справы. Шчыра маліліся вернікі, просячы ў Бога літасьці. А вось некаторым служкам, відаць, цяжка было вытрымаць даволі доўгую службу, бо раты ў іх часам міжволі расьцягваліся ў пазяханьні. Але сьвяшчэньнікі нават не хрысьцілі раты, як звычайна робяць веруючыя ў падобных выпадках, а толькі "пярстамі" пагладжвалі свае бароды. Відаць, былі абсалютна ўпэўненыя ў тым, што тут Нячысьцік да іх не дабярэцца.

Бліжэй да 13-й гадзіны сярод чыноўнікаў пачаўся нейкі рух. Усе яны даволі жвава накіраваліся да эскорту з трох машын, што падрулілі проста да царкоўнае брамы. Аказваецца, усе чакалі прыезду І.Ціцянкова, былога прэзыдэнцкага "заўхоза", а цяпер – кіраўніка маскоўскай фірмы зь вельмі складанай і загадкавай назваю. Іван Іванавіч аказаўся чалавекам даволі дэмакратычным і ў суправаджэньні сваёй шматлікай сьвіты абыйшоў шэрагі асіповіцкіх начальнікаў, практычна з кожным павітаўся за руку. Затым па-гаспадарску агледзеў царкву, задаволена ківаючы галавой у такт тлумачэньням, якія давалі суправаджаючыя. Сярод ціцянкоўскае сьвіты, якая прыехала на вельмі шыкоўных "іншамарках", былі заўважаныя й некалькі жанчын, у тым ліку й ягоная жонка Галіна. Аднак ніхто з гэтых гасьцей не зайшоў у самую царкву. Цікава, што ўвесь час І.Ціцянкоў знаходзіўся ў атачэньні дужых хлопцаў, якія пільна сачылі навакольле. Каго баяліся?

Дык вось затым, на высокім царкоўным ганку, амаль пры поўнай адсутнасьці вернікаў (якія пасьля службы ўжо разыйшліся) адбылося ўрачыстае ўручэньне царкоўных ордэнаў ды мэдалёў тым начальнікам, якія аказалі значную фінансовую дапамогу ў будаўніцтве храма. Незразумелым засталося адно: на якой падставе кіраўнікі дзяржаўных ды камэрцыйных установаў выдзялялі гэтую дапамогу, калі афіцыйна ў нашай краіне царква аддзеленая ад дзяржавы? І ці "одобряют" гэтыя фінансовыя жэсты тыя работнікі, якія падоўгу не атрымліваюць у тых жа начальнікаў свае сумленна зробленыя грошы?

Задаволены Максім дзячыў сьвецкіх начальнікаў-дабрадзеяў прыгожымі царкоўнымі ордэнамі ды мэдалямі. І хоць некаторым зь іх апякаў сэрцы камуністычны партбілет, яны прылюдна цалаваліся з папамі. Першым паказаў прыклад, як гэта робіцца, І.Ціцянкоў, якому ўзнагарода была ўручаная ад імя маскоўскага патрыярха Алексія. За ім ужо "хрыстосаваліся" усе астатнія. Адзін толькі старшыня райвыканкаму В.Шчэцька прыняў узнагароду без пацалункаў. Але гэта, відаць, таму, што крыху спазьніўся – прыехаў толькі тады, калі яго спэцыяльна выклікалі, і выглядаў таму крыху разгубленым.

...Другая частка сьвяткаваньня адбывалася ў рэстарацыі "Траўна", дзе было наладжанае грандыёзнае застольле. Туды запрасілі выключна выбраных царкоўных ды сьвецкіх начальнікаў. Не было ўсё таго ж В.Шчэцькі, які – што робіць яму гонар – ня вельмі паважае падобныя "мерапрыемствы" й стараецца іх пазьбягаць. Не ўдалося высьветліць, ці прысутнічаў І.Ціцянкоў. Хутчэй за ўсё – не, бо, паводле адных дадзеных, яму трэба было тэрмінова ехаць у Маскву, па іншых – яго чакалі на паляваньні ў запаведніку недзе каля Баранавічаў. Астатнія запрошаныя з радасьцю адправіліся добра выпіць ды закусіць.

Аднак сьвяточны настрой некаторым прысутным недарэчна сапсаваў айцец Максім, які выказаў падчас тостаў некалькі відавочна нялюбых словаў на адрас нехрысьціянаў, габрэяў, у прыватнасьці. На тое, што ў залі былі не адныя праваслаўныя, кіраўнік парахвіі ніякай увагі не зьвярнуў. Таму некаторыя нават вымушаныя былі сыйсці з урачыстасьці, каб ня чуць дзіўных меркаваньняў Максіма. Астатнія ж працягвалі спакойна ліць ды есьці...

***Мікалай ТАМАШОЎ***
***Фота з архіву "ТМ"***

# ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

## ...з Шклова



***Шырока вядома, што ў Расеі ў Лукашэнкі ёсьць асабістыя дружбакі. Адзін зь іх – губэрнатар Краснадарскага краю "чырвоны атаман" Кандрацэнка.***

Дэмакратычная грамадзкасьць Расеі неаднойчы, праўда, безвынікова, спрабавала прыцягнуць яго да суду за антысэміцкія ды іншыя шавіністычныя выказваньні. Магчыма, што на падставе сяброўства свайго правадыра і блізкага па духу расейскага атамана шклоўскія бэпээсэмаўцы абвесьцілі набор моладзі для работы ў Краснадарскай губэрні. Асаблівай актыўнасьцю акцыя не карыстаецца, аднак і ў сябе дома моладзі рабіць няма чаго. І ня толькі моладзі: раённы цэнтар занятасьці насельніцтва таксама абвесьціў набор шклаўчанаў для працы на розных расейскіх прадпрыемствах і будоўлях.

***Горацкі раённы суд (паколькі дырэктар ЗАТ "Прамень" сп. С.Жэлезоўскі выказаў недавер свайму раённаму суду)*** прызнаў незаконнымі некалькі актаў куплі-продажу акцыяў гэтага шклоўскага швэйнага прадпрыемства, якія зьдзейсьніў дырэктар, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча. Група работніц фабрыцы "Прамень" мае намер працягнуць сваё змаганьне супраць дырэктара за справядлівасьць.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

## ...з Горак

***Пасьля праведзенага разьмеркаваньня на факультэтах Акадэміі пачаліся студэнцкія хваляваньні.***

Незадаволенасьць моладзі накіраваньнем у радыяцыйна забруджаныя раёны ды ўвогуле кепскім станам нашай вёскі, незабясьпечанасьцю жыльлём і г.д. перарасла ў сутыкненьні выпускнікоў з адміністрацыяй. Між іншым, і да сёньня студэнты факультэту мэханізацыі сельскай гаспадаркі ня могуць атрымаць тлумачэньня ад адміністрацыі, зь якой нагоды яны былі накіраваныя ў часе занятказ на незаплянаваную месячную працу ў калгасы краіны.

***1 чэрвеня ў будынку ПК БДСГА адбыўся конкурс пад назвай "Незабытая спадчына".*** Моладзевае спаборніцтва вялося на лепшую пастаноўку беларускага народнага сьвята альбо абраду. Вось якія абрады прадставілі пераможцы: Каляды, Купальле, Заручыны, Хрэсьбіны, Вясельле. Вельмі парадавала тое, што ўсе ўдзельнікі размаўлялі выключна на беларускай мове.

***Віктар КАРАЛЬКОЎ***

## ...з Бабруйску



***Цяжкі фінансовы стан – паўсядзённая рэалія сучаснай бабруйскай вытворчасьці.***

З красавіку не выплочваюць заробкі на заводзе "Весоприбор", працаўнікам прапануюць замест грошай мяса. Падобнае становішча склалася й на мэблевай фабрыцы імя Халтурына. А адсутнасьць выплаты заробкаў на мэблевай фабрыцы імя Асіпенкі сталася прычынаю папераджальнага страйку напрыканцы траўня. Пасьля гэтага на прадпрыемстве зьмяніўся камэрцыйны дырэктар. Ажно зь лютага не атрымваюць заробкаў працаўнікі камбінату жалезабэтонных вырабаў. Дырэктар камбінату кажа, што грошай у прадпрыемства няма з-за таго, што яму завінаваціліся Магілёўскі аблвыканкам, а таксама Бабруйскі, Чэрыкаўскі й Чавускі гарвыканкамы. Па словах дырэктара, ён шчыра казаў людзям, што яны могуць у любы момант звольніцца, бо ніякіх канкрэтных зьменаў да лепшага сёньня не прадбачыцца. Зрэшты, уся краіна зараз так жыве...

***Пасьля 10-месячнага перапынку аднавілася выданьне*** зарэгістраванага гарадзкога недзяржаўнага штотыднёвіка "Крынічка Бабруйская". Заснавальнікам ды галоўным рэдактарам газэты ёсьць вядомы бабруйскі апазыцыянэр Вячаслаў Сьвізуноў.

***Тацяна КОПЕЦ***

## ...зь Бялынічаў

***Летам вяскоўцаў выручае лес, як гэта было спакон веку.***

Вось і зараз многія нецярпліва чакаюць ураджаю ягадаў і грыбоў. Аднак адпаведныя службы папярэджваюць, што ўжываць "лясныя дары" на нашай забруджанай радыяцыяй тэрыторыі небясьпечна. Палова раённых лясных угодзьдзяў закіданая радыёнуклідамі. Яшчэ горш з асобнымі лясьніцтвамі. Найбольш небясьпечныя зь іх менавіта тыя, дзе традыцыйна шмат ягадаў і грыбоў: Кіраўскае, Цяхцінскае, Эсьмонскае.

***Не праходзіць дня, каб злодзеі не абрабавалі які-небудзь калгас.***

Апошняму на сёньня не пашанцавала калгасу імя Ільіча. Тут зламысьнікі скралі з складу 234 алюміневыя агароджы. Гэты крадзеж стаўся 25-м з пачатку году. Палова крадзяжоў, як адзначае міліцыя, зьдзейсьнена "шляхам свабоднага доступу" у службовыя і вытворчыя памяшканьні як удзень, так і ўначы.

***Міхась КАРПЕЧАНКА***

## ...з Крычава



***У траўні бягучага году жыхары вуліцы Кастрычніцкай напісалі ліст у рэдакцыю газэты "Вечерний Могилёв".***

У лісьце падпісанты – 24 чалавекі – абвінавачвалі крычаўскія ўлады і асабіста старшыню райвыканкаму А.Сіваева. Абвінавачваньні, у прыватнасьці, былі наступныя: "...начальники занимаются устройством своего "гнезда", а обязанности свои не выполняют", "...город загажен...", "тов. Сиваев, председатель райисполкома, завалит работу на одной должности, его пересаживают в другое кресло". І гэтак далей. "Вечерний Могилёв" ліст крычаўлянаў надрукаваў.

За гэтым пасьледавала нешта такое, што надоўга запомніцца газэтчыкам. Гэта **нешта** прымусіла ажно трох супрацоўнікаў "ВМ" прыехаць у Крычаў й на працягу пяці гадзінаў (па іхных словах) дасьледаваць горад "на прадмэт добраўпарадкаваньня і загажанасьці".

У выніку гэтага дасьледаваньня ўсе тры прадстаўнікі рэдакцыі разам засьведчылі, што: "Крычаў не загажан... мы не знайшлі ў Крычаве нічога (у сэнсе добраўпарадкаваньня), да чаго можна было б прыдрацца. Горад чысты і ўхожаны... І самае галоўнае – ня ўбачылі мы ў Крычаве і таго, што "тов. Сиваев завалил работу" і зьвівае нейкае там "гняздо" – старшыня райвыканкама жыве зь сям'ёй у звычайнай 3-пакаёвай кватэры...".

Карацей, выбачайце нас, дзядзенька, мы больш ня будзем...

## ...з Мсьціслава

***Думаецца, кожны бачыў жывёлу, якая пасьвіцца на лузе, ці ў іншых, спэцыяльна адведзеных для гэтага месцах. Ходзяць сабе кароўкі ці козачкі, шчыплюць пыльную траўку і радуюцца сонейку. Ім дазваляюць...***

Жыхарам усходняй Магілёўшчыны, як, верагодна, й іншым беларускім правінцыялам, таксама дазваляюць карміць сябе "падножным" кормам. Ахвотныя да бульбы ды цыбулі мсьціслаўцы, напрыклад, могуць атрымаць участачак зямлі ў горадзе ці за яго межамі для задавальненьня сваіх фізыялягічных патрэбаў (спаталеньня голаду). Аднак працэс выдачы і адбіраньня "сотак" строга рэглямэнтаваны. Калі не карыстаесься зямлёй на працягу 2 сэзонаў – аўтаматычна пазбаўляесься магчымасьці вырасьціць агурок і рэпку... Таксама аўтаматычна падобная магчымасьць пераходзіць да іншага аматара сельскае гаспадаркі – бо есьці хочацца ўсім.

***Паводле інфармацыі аддзелу гарадзкой і камунальнай гаспадаркі райвыканкама,*** на сёньня плошча зямельных надзелаў, якія знаходзяцца толькі на тэрыторыі горада, складае 172 гектары. Гэта значыць, што пераважная колькасьць мсьціслаўцаў сельскагаспадарчай прадукцыяй забясьпечваюць сябе самі.

## ...з Чэрыкава



***Стала ўжо "добрай" традыцыяй кожнае лета ганяць работнікаў усіх прадпрыемстваў і ўстановаў райцэнтра з косамі ў руках на лугі і абочыны дарог.***

Робіцца гэта з мэтай аказаньня "пэўнай дапамогі сяльчанам", а таксама, калі добра падумаць, дзеля блага саміх жыхароў. Мяркуйце самі: гараджане, што за асеньне-зімовы пэрыяд насядзеліся за рабочымі сталамі ды кампутарамі, настаяліся за станкамі і канвэерамі, намахаліся гумовымі міліцэйскімі палкамі й апэрацыйнымі скальпелямі, зараз будуць мець магчымасьць паразмяць зацёкшыя костачкі – папрацаваць косамі ды граблямі.

Адмысловым рашэньнем райвыканкаму да кожнай арганізацыі, установы, прадпрыемства раёна даведзенае канкрэтнае заданьне па нарыхтоўцы корму для грамадзкай жывёлагадоўлі з разліку 100 кілаграмаў сена альбо 400 кілаграмаў зялёнай масы на аднаго працуючага. Сёлета афіцыйны Чэрыкаў першым сярод райцэнтраў усходняй Магілёўшчыны загадаў жыхарам свайго раёна выходзіць на прымусовыя працы.

***Андрэй КУЗЬМІН***

# БЕЛАПАН для «ТМ»

**19 чэрвеня Менскі гарадзкі суд абвесьціў прысуд у адносінах да старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Міколы Статкевіча і дэпутата ВС 13-га скліканьня Валерыя Шчукіна.**

Суд прызнаў М.Статкевіча вінаватым у арганізацыі і актыўным удзеле ў дзьвюх леташніх акцыях пратэсту і прыгаварыў яго да 2-х гадоў пазбаўленьня волі з адтэрміноўкаю выкананьня пакараньня на два гады. Валеры Шчукін прызнаны вінаватым у актыўным удзеле ў "Маршы Свабоды" у кастрычніку 1999 года і прыгавораны да аднаго года пазбаўленьня волі з адтэрміноўкаю выкананьня прысуду на адзін год.

Абодва апазыцыянэры абвінавачваліся па арт.186 ч.3 Крымінальнага кодэкса за арганізацыю і ўдзел у мінулагоднім "Маршы Свабоды". Тады арганізаванае апазыцыяй шэсьце закончылася масавымі сутыкненьнямі дэманстрантаў зь міліцыяй. Акрамя гэтага, М.Статкевіч абвінавачваўся ў арганізацыі і актыўным удзеле ў групавых дзеяньнях, якія парушалі грамадзкі парадак 27 ліпеня 1999 года, калі ў Менску прайшла несанкцыянаваная дэманстрацыя ў дзень 9-х угодкаў прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце Беларусі.

У часе судовага разбору абвінавачваемыя сваёй віны не прызналі. Старшыня БСДП (НГ) назваў рашэньне суда "чарговым этапам зачысткі беларускага палітычнага поля". "Барацьба супраць магчымых працяўнікаў на выбарах працягваецца", – сказаў М.Статкевіч. Па ягоных словах, улады не пазбавілі іх волі толькі з-за таго, што эканоміка краіны знаходзіцца ў правале і ўлады маюць патрэбу ў заходніх крэдытах.

●

**Дэпутат Вярхоўнага Савета Валеры Шчукін ня будзе выконваць прысуд, вынесены яму 19 чэрвеня.**

У сваёй заяве, перададзенай 20 чэрвеня ў канцылярыю Менскага гарадзкога суда, В.Шчукін назваў прысуд "палітычнай расправай". На ягоную думку, падчас судовага разьбіральніцтва ў ягоных дзеяньнях не было выяўлена складу злачынства, прадугледжанага адпаведным артыкулам. Аднак суд ня толькі прызнаў яго вінаватым, але і "каб дагадзіць кіруючаму рэжыму (а магчыма, і па заказу)" – адтэрмінаваў выкананьне прысуду, пазбавіўшы дэпутата свабоды перамяшчэньня. Як лічыць В.Шчукін, умовы адтэрміноўкі выкананьня прысуду "у прынцыповым пляне нічым не адрозьніваюцца ад утрыманьня ў турэмнай камэры", але ён ня мае намеру "пытацца ў каго б там ні было дазволу на сваё перамяшчэньне і адзначацца ў жандармэрыі".

●

**Днямі менскія ўлады адмовілі газэце "Беларуская маладзёжная" у правядзеньні традыцыйнага купальскага фэстывалю.**

Гэтым разам журналісты і чытачы мелі намер правесьці акцыю пад агульнай назвай "Скажы "Не" гвалту!". У праграме акцыі былі заплянаваныя бясплатныя выступленьні вядомых беларускіх рок-гуртоў перад шматтысячнай моладзевай аўдыторыяй на адкрытых пляцоўках, а таксама сплятаньне вянкоў й іхны "сплаў" па Сьвіслачы.

Сваю адмову гарадзкія ўлады матывавалі падрыхтоўкай парку імя Горкага да сьвяткаваньня гадавіны вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і "Дня незалежнасьці", у сувязі з чым, як паведамілі яны, з 26 чэрвеня ў парку будзе праводзіцца "выбарачны рамонт дарожак, лавачак і фасаду галоўнага ўваходу".

●

**Беларусі патрэбны новы прэзыдэнт, здольны кіраваць дзяржаваю. Такую думку выказаў былы начальнік галоўнага дзяржаўна-прававога ўпраўленьня Адміністрацыі прэзыдэнта Аляксандар Пласкавіцкі.**

А.Пласкавіцкі звольніўся з пасады па ўласнаму жаданьню ў канцы траўня, прычым, як ён сьцьвярджае, не з-за канфліктаў з кіраўніцтвам, а таму, што прыйшоў да цьвёрдага перакананьня: у дзяржаўным апараце яму рабіць больш няма чаго. "Дзяржаўны апарат, ва ўсялякім выпадку ягоны вышэйшы эшалён, з дзеючага органа сёньня пераўтварыўся ў нешта аморфнае і абсалютна бескарыснае, – заявіў А.Пласкавіцкі ў інтэрвію газэце "Белорусский рынок". – Прэзыдэнт, жадаючы, безумоўна, палепшыць жыцьцё людзей, узьняць сельскую гаспадарку, удасканаліць дзяржапарат і г.д., зрабіць гэта зараз ня здольны...". Таксама былы чыноўнік выказаў жаданьне ў якасьці кансультанта працаваць над праграмай з умоўнаю назвай "Новы прэзыдэнт". Найбольшыя магчымасьці для вылучэньня альтэрнатыўнага кандыдата ў прэзыдэнты, на ягоную думку, сёньня мае першы эшалён дзяржаўнага апарату. А вось шанцы апазыцыі правесьці ў прэзыдэнты свайго кандыдата, паводле А.Пласкавіцкага, блізкія нулю.

●

**65 адсоткаў апытаных сяброў Рэспубліканскага прафсаюза работнікаў аўтамабільнага й сельскагаспадарчага машынабудаваньня пацьвердзілі сваё жаданьне прыняць удзел у масавых акцыях працоўнага пратэсту, заплянаваных на восень.**

Мяркуецца, што галоўным патрабаваньнем маючых адбыцца акцыяў стане павышэньне жыцьцёвага ўзроўню працоўных. Усяго было апытана каля 2 тысячаў сяброў прафсаюза, якія працуюць на 17 прадпрыемствах галіны ў розных раёнах краіны. Супраць свайго ўдзелу выказаліся 14% рэспандэнтаў. Пры гэтым 23% тых, хто выказаўся супраць, баяцца перасьледу з боку адміністрацыі прадпрыемстваў.

●

**Працэсы, якія адбываюцца ў судовай сыстэме Беларусі пасьля рэфэрэндуму 1996 года, выклікаюць сур'ёзную заклапочанасьць.**

Аб гэтым па выніках свайго візыту ў Беларусь заявіў спэцыяльны дакладчык Камісіі ААН па правах чалавека Дато Парам Кумарасвамі. Ён займаецца пытаньнямі незалежнасьці судзьдзяў і адвакатаў. Паводле ягоных словаў, сёньня зашмат ўлады сканцэнтравана ў руках кіраўніка дзяржавы, што не дазваляе казаць аб незалежнасьці судовае ўлады ў краіне. Падчас шасьцідзённага візыту сп.Кумарасвамі сустрэўся з шматлікімі афіцыйнымі асобамі, а таксама з судзьдзямі, у тым ліку – Вярхоўнага і Канстытуцыйнага судоў, а таксама з адвакатамі ды праваабаронцамі. На думку дакладчыка ААН, сыстэма прызначэньня судзьдзяў прэзыдэнтам і пяцігадовы "выпрабавальны тэрмін" працы не адпавядаюць прынцыпу незалежнае судовае ўлады Дэталёвая справаздача будзе прадстаўленая ім на 57-й сэсіі Камісіі ААН па правах чалавека ў красавіку 2001 года.

●

**"Я не магу сабе ўявіць, што велізарная Расея стане сябрам ЭўраЗьвязу, паколькі яна – асобны цэнтар улады", – заявіў ганаровы сябра Парлямэнцкай Асамблеі Савета Эўропы і Заходнеэўрапейскага саюзу Робэрт Антрэтэр.**

На ягоную думку, ад такой вялікай краіны ў ПАСЭ было б занадта шмат дэпутатаў і "Эўрапарлямэнт стаў бы занадта рускім". У той жа час Р.Антрэтэр лічыць, што Беларусь і Ўкраіна праз 20-30 гадоў маглі б стаць сябрамі ЭўраЗьвязу, але іхнае сяброўства ў ЭЗ не павінна быць накіраванае супраць Расеі, паколькі "Эўропа ня можа сабе дазволіць такую палітыку". Што да стварэньня саюзнае дзяржавы Беларусі й Расеі, то, як адзначыў Р.Антрэтэр, у эўрапейскіх структурах найбольш прымальным варыянтам лічыцца незалежнасьць Беларускай дзяржавы.

БЕЛАПАН для «ТМ»

